# Ніва


**БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК**





№ 29 (803) ГОД XVI БЕЛАСТОК 18 ЛІПЕНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.

ДА 90-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

## З ЯДВІГАЙ РАМАНОЎСКАЙ ПРА ЯЕ роднага дзядзьку

Нашым госцем сёння на старонках «Нівы» з'яўляецца Ядвіга Раманоўская — кусташ літаратурнага музея Янкі Купалы ў Мінску.

Ядвіга Раманоўская прыехала ў Польшчу ў сувязі з набліжэннем 90-тай гадавіны з дня нараджэння Янкі Купалы.

— Купала, як вядома, добра ведаў польскую мову...

— Купала дасканала ведаў польскую мову. Ён свае першыя вершы пісаў па-польску. Друкаваў іх у часопісе «Зярно» ў Варшаве. Я, будучы цяпер у Варшаве, знайшла экземпляры часопіса з вершамі Купалы ў бібліятэцы Польскай Акадэміі Навук. Увогуле Купала свой першы верш па-польску прысвяціў маёй маме — сваёй наймалодшай сястры Леакадзіі, якой тады было 12 год. Яна аднойчы моцна хвалявалася і рыхтавалася да сваіх імянін. Калі ўжо селі за стол, Купала пачаў:

Dzisiaj Loli imieniny, —
Widać nawet to z jej miny.

— Ці верш захаваўся?

— Не, Леакадзія засаромелася, адабрала верш і спаліла.

— А вы адкуль помніце яго?

— Крыху ёсць аб гэтым ва ўспамінах пра дзіцячыя гады Купалы і мама расказвала.

— Я хачу сказаць далей, што ў дзіцячыя свае гады жыла ў сям'і Купалы ў Мінску. Тры сястры яго — Ганна, Марыя і Леакадзія — жылі на вёсцы. Купала памагаў сёстрам выхоўваць дзяцей.

— Як, наколькі помніце, ішло жыццё ў доме Купалаў? Ён любіў дзяцей? Пісаў жа ім вершы.

Працяг на стар. 4



Ядвіга Раманоўская ў час падарожжа па Беласточчыне.



*Пад цяністымі дрэвамі, у найпрыгажэйшым кутку Орлі адбыўся фэстын БГКТ, прысвечаны 15-цігоддзю нашай арганізацыі. Чытайце і глядзіце на стар. 3 фотарэпартаж з гэтага святкавання.*

НА ШЛЯХУ ДА КАЎБАС І КАТЛЕТАЎ

## КАЛІ НЯМА



## БЫКА

І зноў на найвышэйшым узроўні нашай народнай улады ішла грунтоўная гутарка пра сельскагаспадарчыя справы. Паслы на чэрвеньскай сесіі Сейма разглядалі ўрадавы праект пастановы аб упарадкаванні права на ўласнасць і абарот зямлёю, а ў час X пленума Цэнтральнага Камітэта ПАРП таксама нямала ўвагі было прысвечана справам сельскай гаспадаркі. У рашэннях гэтага пленума асаблівы націск кладзецца на развіццё жывёлагадоўлі.

Паспяховасць яго ажыццяўлення, як у кожным іншым дзеянні, гарантуе добры пачатак. Найлепшым пачаткам у развіцці жывёлагадоўлі, апрача запасу высокаякаснага корму і выгодных будынкаў, з'яўляюцца народзістыя цяляты. Аднак цялят, як вядома, не бывае без быка, або без адукаванага інсемінатара, які заўжды мае ў спраўным халадзільніку добрае насенне адпаведнай пароды.

У вёсках Сямяціцкага павета: Харашчэва, Мілейчыцы і Мікулічы, налічваецца разам амаль 1600 штук дойных кароў. Дойная карова тады мае найлепшую вартасць, калі яна «прыводзіць» цялят.

І вось сярод гэтых 1600 дойных кароў ледзь 1036 паддаваліся ў мінулым годзе інсемінацыі.

А што стала з рэштай кароў?

На гэтае пытанне не ўдалося мне атрымаць адназначнага адказу. Вядома аднак, што ў раёнах, дзе існуюць інсемінацыйныя пункты, няма быкоў, бо іх нельга там трымаць. Дык толькі ў трох вёсках Сямяціцкага павета звыш паўтысячы дойных кароў засталіся яловымі, што значыць: мала прадуктыўнымі і для сялян, і для нашай гаспадаркі, калі разумець яе ў шырокіх маштабах, бо ў гаспадарскіх хлявах не паявілася прынамсі паўтысячы цялят, якія маглі б некалькімі дзесяткамі тон папоўніць запас мяса, або...

Дарэмна аднак павялічваць гэты лан-

Працяг на стар. 4

## СПРАВЫ моладзі і вёскі

Прынятыя нядаўна пастановы адносна новых умоў кантрактацыі жывёлы і збожжа стварылі многа клопатаў для вясковага гандлю. Пункты скупкі вельмі занядбаныя і трэба іх хутка адрамантаваць, паправіць даяздныя дарогі, часта трэба выраўняць пляцы, выкапаць ямы пад новыя вагі. Работы шмат, але выконваць гэтага няма каму. І тут як з неба прыходзіць спулдзельням з дапамогай моладзь. Ваяводскае праўленне ЗМВ згоднае нават арганізаваць гуфцы працы (ОГП).

Моладзь, працуючы, хоча зарабіць грошы. Не, не грошы сабе ў кішэню. але хоча за іх купіць футбольны мяч, спартыўныя ўборы, адрамантаваць святліцу ці клуб, купіць новыя сучасныя пласцінкі, магнетафон і г. д. Моладзь гэтага патрабуе, хоча мець. Размаўляючы з маладымі ў Гайнаўцы, я пачуў: «Мы хочам самі зарабіць і купіць тое, што нам найбольш патрэбна. Часам ужо прыкра слухаць ад старэйшых, як гэта яны нам усё даюць і мусяць на нас працаваць. Мы таксама хочам працаваць і працуем для нашай гаспадаркі. Тое, што хтосьці з нас носіць доўгія валасы або танцуе модныя танцы, не сведчыць аб яго непрацавітасці. Хуліганы не падабаюцца таксама нам, як і старэйшым... Мы хочам быць поўнаправнымі і не хочам, каб нас вадзілі за ручку...»

Найбольш распаўсюджанай формай культурнага жыцця вясковай моладзі з'яўляюцца клубы «Рух» і «Гаспадара». Запатрабаванне на клубы ў нас велізарнае. Моладзь амаль з кожнай вёскі звяртаецца з прапановай, каб адкрыць у іх клуб. Але хто ж іх так надта слухае? Найчасцей закідваюць іх параграфамі аб немагчымасці здзейсніць іх мінімальныя патрэбы. А тым часам у канцы 1970 года ў Беластоцкім ваяводстве налічвалася 142 запатрабаванні на адкрыццё клубаў, дзе ёсць дастасаваныя да адкрыцця клуба памяшканні. Каб не быць галаслоўным, скажу, што такіх памяшканняў налічвалася ў Беластоцкім павеце — 29, Бельскім — 12, Гайнаўскім — 8, Сямяціцкім — 6 і Сакольскім — 6. Хачу сказаць, што колькасць гэтых памяшканняў значна большая. І яшчэ адно. Каб Беластоцкае ваяводства магло наблізіцца ў галіне колькасці клубаў на вёсцы да Варшаўскага, якое займае пера-

Працяг на стар. 4




Фэстын адкрывае сакратар ГК ПАРП Леанід Мураўскі.



Футбольны матч паміж Міклашамі і Дубяжынам.

# АРЛЯНСКАЕ СВЯТА

Трапны быў выбар месца святкавання 15-ай гадавіны БГКТ у Бельскім аддзеле. Орля — мястэчка з 500-гадовым мінулым — мае багатыя культурныя традыцыі, шмат тут актыўных і прыхільных да бэгэкатоўскай дзейнасці людзей. Таму і фэстын, які тут адбыўся 27 чэрвеня г. г., стаў сапраўдным народным святам. У тым, што было гэта ўдачнае і карыснае мерапрыемства, асаблівая заслуга мясцовых улад, арганізацый і актывістаў, якія з адданнем уключыліся ў падрыхтоўку і правядзенне фэстына.

Адкрыў фэстын сакратар грамадскага камітэта ПАРП Леанід Мураўскі. З дакладам выступіў старшыня бельскага аддзела БГКТ Мікалай Гайдук. Паказаў ён дасягненні БГКТ наогул і бельскага аддзела ў прыватнасці. А зроблена тут нямала добрай работы. Асабліва ў развіцці мастацкай самадзейнасці. Вось хоць бы і арлянскі калектыў. Паўстаў не так даўно, а ўжо цешыць слухачоў умелым выкананнем і таленавітасцю. Бісам не было канца. Зрэшты, арлянцы сардэчна прымалі таксама і іншыя калектывы: школьны з Орлі і два бельскія: «Меладыйныя праменьчыкі» з сельскагаспадарчага тэхнікума і хор аддзела БГКТ.

Мясцовы ГС трэба пахваліць за паказ моды, які ён наладзіў сваімі сіламі. І галоўнае — атрымалася не горш, чым у Варшаве. На зграбных арлянскіх мадэльках усё ляжала дасканала.

У заўзятай, але карэктнай гульні праходзілі футбольныя спаборніцтвы паміж дружынамі Міклашоў, Дубяжына, Орлі і Кнарыдаў. Было эмоцый нямала. Такіх вынікаў, як, напрыклад, у матчы Орля — Кнарыды (5:5) дарэмна чакаюць гарадскія балельшчыкі.

Паказвалі тут таксама сваю ўмеласць мясцовыя пажарнікі і адбыліся павятовыя адборачныя матацыклетныя спаборніцтвы на «Залатую каску». Не трэба дадаваць, што ўсе гэтыя мерапрыемствы карысталіся вялікім зацікаўленнем публікі, якая прыбыла сюды не толькі з Орлі, але і з суседніх вёсак, а таксама з Бельска.

Фэстын закончыўся танцамі.

Як на адзін дзень, уражанняў было многа.

*Тэкст: Рыгляс*
*Фота: Цаф — Сянько*



Маладыя, але таленавіты калектыў з Орлі.



«Меладыйныя праменьчыкі».




Хор аддзела БГКТ у Бельску.



На матацыклетных спаборніцтвах.



Паказ моды.




Хор аддзела БГКТ у Бельску.



Будзе аб чым успамінаць.

Пачатак на стар. 1

# СПРАВЫ




дапошняе месца ў краіне, неабходна тут падвоіць колькасць клубаў.

Няма сэнсу гаварыць аб дрэнным выхаваўчым уплыве «бяспанскіх» будынкаў на вёсцы, будынкаў, вельмі часта пабудаваных грамадскім чынам гаспадароў і моладзі. З другога боку, няма патрэбы гаварыць, як хутка расце культурны ўзровень вёскі тады, калі такая культурная пляцоўка, як клуб, паўстае ў вёсцы... У Малых Тынявічах, напрыклад, дзе нават не было надзеі на культурна-асветную дзейнасць і не было сілы, каб абудзіць да гэтага моладзь, арганізаванне клуба «Рух» стала прычынай, што паўстаў тут драмгурток, які выстаўляў п'есу не толькі ў сябе, але і выязджаў у іншыя вёскі. Не гаворачы ўжо аб ролі, якую адыгрывае клубны тэлевізар, магнетафон ці радыёпраігрывацель.

Неабходна ствараць атмасферу для самастойнасці моладзі і ўмовы да ўключэння яе як поўнавартаснага партнёра ў прадукцыю і грамадскае жыццё. Шмат чаго трэба змяніць у маладзёжных камісіях пры ПЗГС і ГС. Павінна тут засядаць сама моладзь і павінна яна ведаць, чым камісія распараджаецца, якімі сродкамі на дзейнасць сярод моладзі. Зараз спулдзельчасць «Самапомачы хлопскай» мае фонд на стыпендыі для тых дзяўчат і хлопцаў з вёсак, якія вучацца завочна, але не вырашана, як гэты фонд выкарыстоўваць.

Мала таго, на вёсцы ёсць такія справы, што без моладзі іх вырашыць нельга. Маю тут на думцы такія прафесіі, як трактарыст, аўтамеханік, радыё - і тэлемеханік, слёсар ці будаўляны раменік. Варта таксама падумаць, каб у рамках ПР (пшыспособене рольнічэ) увесці курс бухгалтарства з мэтай выкарыстання гэтых людзей у сельскагаспадарчых гуртках.

Нядаўна Стэфан Альшоўскі, сакратар ЦК ПАРП, так пісаў у «Трыбуне Люду» аб справах маладога пакалення. «Меркай грамадскай культуры народа з'яўляецца, між іншым, уменне згоднага дыялагу і садзейнічання між пакаленнем людзей дарослых і пакаленнем маладых, уваходзячых у жыццё, прымаючых адказнасць за лёсы краіны». І ў гэтым заключаецца важнасць і складанасць праблемы.

*А. Лабановіч*

Пачатак на стар. 1

# КАЛІ НЯМА



# БЫКА

цужок меркаванняў, «што было бы, калі б было». Цялят ад гэтага не прыбудзе.

Каб было ясна, дык станоўча заяўляю, што я не выступаю супраць інсемінацыі. Штучнае апладненне жывёлы вядомае ўжо вельмі даўно. У краінах, дзе культура земляробства дасягнула высокага ўзроўню, прымяняецца яно амаль выключна. Штучнае апладненне гарантуе чысціню пароды і абыходзіцца непараўнальна таннейшым коштам.

Я аднак заўзята пратэстую супраць дрэннай хаўтурнай інсемінацыі. Нельга да яе адносіцца абыякава, бо надта ж многа траціць гаспадар, а разам з ім і мы ўсе. Дык як тады разумець вось такое, што ў мінулым годзе ў Мілейчыцах на 460 кароў штучнаму апладненню паддаваліся толькі 217, што нават сярод красуль, якія прайшлі праз інсемінацыйны пункт, бадай 25 засталося яловымі, што неабходнасць паўторнага апладнення дасягала там аж 35%.

Да чагосьці такога дапускаць, нельга, бо гэта ўжо мяжуе з яўным сельскагаспадарчым шкодніцтвам.

Віна, гавораць, раскладаецца аднолькава на гаспадароў і на інсемінатараў ды заатэхнічную службу. Штучнае апладненне жывёлы ўсё яшчэ для нашага селяніна з'яўляецца непрывычнай і не зусім звычайнай навінкай, хаця талкуецца пра яе ў нас ужо каля 10 год. Таму інсемінатары і грамадскія заатэхнікі тым болей сур'ёзна, з пачуццём вялікай адказнасці павінны выконваць свае службовыя абавязкі.

Можна спадзявацца, што гэтага роду выбоін на шляху да каўбас і катлетаў будзе ўсё менш. Вось у Мілейчыцах абсталявалі ўжо «банк насення», а інсемінацыйныя пункты атрымалі неабходныя прылады і спраўныя халадзільнікі.

Толькі каб яшчэ заатэхнічная служба ў павятовых Сямяцічах канчаткова вырашыла, куды якое дастаўляць насенне. А то здаралася, што пад назвай «польскай чырвонай» пароды інсемінацыйныя пункты атрымоўвалі гібрыд (скрыжаванне) джэрсеевай пароды з польскай чырвонай. Кароўка родам з англійскага вострава Джэрсей дае вельмі тлустае малако, аднак на мяса яна зусім непрыдатная. І таму нават яе гібрыд з польскай чырвонай сяляне рашуча адкінулі. Яны хацелі гадаваць мясную, родам з Францыі, пароду шаралез або датскую чырвоную.

Так, мабыць, гаспадарам падказвае жывёлагадоўчы вопыт. А вопыт адна з асноўных крыніц пазнання таямніц прыроды. Яго адкідаць нельга.

*М. Нурэцкі*

Пачатак на стар. 1

# З ЯДВІГАЙ РАМАНОЎСКАЙ ПРА ЯЕ

## роднага дзядзьку

— Дом Купалы заўсёды поўніўся галасамі дзяцей. Цёця Уладзя — жонка дзядзькі, працавала з дашкольнымі дзяцьмі і заўсёды іх прывозіла дахаты. А Купала вельмі любіў прымаць дзяцей. Ён з імі зараз ішоў у сад, які сам пасадзіў і вырасціў. Зразаў ружы-кветкі, якія найбольш любіў і даваў дзецям. Даваў ім яблыкі з сваіх яблынь.

— Як людзі называлі Купалу?

— Усе называлі яго: дзядзька Янка і цёця Уладзя — гэта яго жонка. Усе пісьменнікі сходзіліся і па-сямейнаму адчувалі сябе ў доме Купалы. Ён любіў пачынаючых пісьменнікаў, памагаў ім.

— Які быў на штодзень?

— Любіў людзей шчырых, праўдзівых. Не любіў вельмі няшчырых людзей. Некаторым здавалася, што ён маўклівы, але гэта таму, што ў дзядзькі заўсёды былі думы... Жонка Купалы была вельмі вясёлая і жыццерадасная. Гаварыла сама, што, мабыць, такая яна таму, што маці яе францужанка, а бацька беларус — Станкевіч.

— Цікава гаворыцца нам пра цікавыя гісторыі, але вернемся да вашага прыезда ў Польшчу. Мо крыху аб музеі Купалы.

— Цёця Уладзя зрабіла вялікую работу па збіранні таго, што пасля Купалы дзе-небудзь засталося. Музей быў адкрыты ў 1945 годзе. На фонд музея склаліся розныя пажоўклыя здымкі, перапіска, рукапісы, — іх у нас каля тысячы адзінак, сярод іх рукапісны зборнік «Шляхам жыцця». Многа купалаўскіх памятак загінула, дом яго згарэў, згарэла багатая бібліятэка, якой ён асабліва шкадаваў. Загінула багатая перапіска. Мая галоўная мэта сабраць і тут — у Польшчы ўсе весткі аб Купале, сустрэцца з людзьмі, якія жылі ў Вязанцы. Мы хочам рэстаўрыраваць на 90-ую гадавіну дом у Вязанцы, у якім Купала нарадзіўся, а ў якім зараз знаходзіцца філіял нашага музея.

— На якой паперы Купала любіў пісаць, ці пісаў у сшытках?

— На рознай. Мы маем рукапіс вершаў на каробцы ад папяросаў.

— Ён курыў?

— Курыў вельмі многа — адну папяросу па другой, амаль безупынна, але цікава, што не дакурваў да канца.

— Ці можаце коратка накрэсліць вашу праграму святкавання 90-тай гадавіны нараджэння Янкі Купалы?

— Будзе рэстаўрыраваны домік у Вязанцы, адноўлена дача Купалы ў Ляўках над Дняпром, таксама як філіял музея. Будзе ўстаноўлены новы помнік у Мінску ў парку імя Купалы — помнік будзе ў рост Купалы, з бронзы. Выйдзе збор твораў, будуць выкананы мемарыяльныя дошкі па мясцінах, дзе паэт бываў, новыя вуліцы і школы, бібліятэкі будуць названы імем паэта.

— А вашы ўражанні з Польшчы?

— Я ўдзячна Міністэрству культуры Польскай Народнай Рэспублікі за цёплы прыём, за добрую арганізацыю маёй пабыўкі ў вашай краіне, за тое, што далі мне магчымасць многа паглядзець.

Я была ў бібліятэцы Польскай Акадэміі Навук, у Вялікім тэатры, у музеях — Бранеўскага, Міцкевіча. У час маёй цяпер апошняй пабыўкі жонка Бранеўскага перадала нашаму музею на ўласнасць фотакопію рукапісу верша Бранеўскага «Парыжская Камуна». Верш гэты ў свой час Купала пераклаў на беларускую мову.

— А з Беласточчыны?

— Я марыла пабываць у Беластоку. Бачыла горад у 1941 годзе. Бачыла першыя бомбы, кінутыя на горад. Цяпер Беласток такі новы, з вялікімі кварталамі, з прыгожымі будынкамі, з добрымі прыветлівымі тварамі людзей. Я пабывала ў вашым Музеі рэвалюцыйнага руху. Яны паабяцалі мне знайсці матэрыял з пабыўкі Купалы ў Беластоку ў 1939 годзе, калі ён прыехаў сюды з групай пісьменнікаў. Пабывала ў Бельску, Гайнаўцы, Гарадку — усюды сардэчныя сустрэчы, цікавыя працавітыя людзі, вялікае зацікаўленне сувязямі. Усюды жаданні, каб шырэйшымі былі сувязі. Людзі і асабліва моладзь цікавяцца многім, хочуць усё больш ведаць.

— Дзякую вам сардэчна за цікавую размову. Да пабачэння.

*Вера Леўчук*



*Сустрэча з групай актыву БГКТ у Гайнаўцы. Наш госць пасярэдзіне.*
*Фота — Я. Бура*

# Беларуская літаратура

Аляксандар Баршчэўскі

# Перыяд Вялікага княства Літоўскага

## ФРАНЦІШАК СКАРЫНА — ЧАСТКА III.

Спыніўшы, з бліжэй не вядомых прычын выдавецкую дзейнасць у чэшскай Празе, перанёс яе Скарына ў Вільню. Мабыць, перавёз з Прагі і друкарскія станкі, і паперу, і, быць можа, кагосьці з супрацоўнікаў. У Вільні выдаў Скарына ў 1525 годзе дзве кнігі: «Апостала» і «Малую падарожную кніжку». І на гэтым канчаткова абрываецца выдавецкая дзейнасць Скарыны. Чаму? Адказ цяжкі. Некаторыя з даследчыкаў гавораць, што ў гэты перыяд у Вільні быў вялікі пажар, падчас якога згарэла больш паловы горада. Быць можа, згарэла таксама друкарня Скарыны. Іншыя даследчыкі гаворыць аб заразным моравым паветры, якое агарнула горад. Эпідэмія ўсмерціла вялікую колькасць людзей. Хто ведае, можа, Скарына лячыў людзей? На гэтую тэму не ведаем нічога дакладнага.

Ведаем аднак, што жыццё Скарыны ў трыццатыя гады страшэнна скамплікавалася. Быць можа, гэтыя камплікацыі і былі прычынай спынення выдавецкай дзейнасці.

У канцы дваццатых гадоў XVI ст. Скарына быў уцягнуты ў судовую валакіту. Судовая справа вялася паміж жонкай Скарыны Маргарытай і яе сваякамі, якія дамагаліся часткі маёмасці, перанятай жонкай па смерці сваіх бацькоў. На многа цяжэй той аказалася наступная судовая справа, якая нечакана звалілася на Скарыну пасля смерці яго брата Івана. Іван вёў шырокі гандаль не толькі з гарадамі Вялікага княства Літоўскага, але і з замежнымі цэнтрамі. Пасля смерці аказалася, што засталіся за ім значныя даўгі. Крэдытары падалі ў суд на Скарыну, прадстаўляючы яго як кампаньёна Івана. Падчас прабывання на службе ў Познані Скарына быў арыштаваны. Яго маёмасць у Вільні была канфіскавана. Толькі пасля таго, калі сын Івана Раман абавязаўся сплаціць даўгі бацькі, Скарына быў выпушчаны з астрога, а маёмасць была яму звернута.

Цікавай картай жыцця Скарыны быў яго выезд у Кенігсберг. Выезд наступіў па запрашэнню герцага Кенігсберга Альбрэхта. Чым меў займацца Скарына ў Кенігсбергу, друкарствам ці лячэннем? Адны гавораць, што Альбрэхт, староннік лютэранства, хацеў развіваць друк антыкаталіцкай літаратуры і таму прагнуў выкарыстаць друкарскі вопыт Скарыны. Другія сцвярджаюць, што выезд Скарыны быў звязаны з эпідэміяй. І гэта магчыма. Вядома адно — Альбрэхт не меў карысці са Скарыны. Наш друкар і лекар не толькі не друкаваў і не лячыў, але, пакідаючы патаемна Кенігсберг, забраў з двара Альбрэхта мясцовага друкара і лекара.

Чаму Скарына выехаў з Кенігсберга ў Вільню? Прычын магло быць некалькі. Можа, не спадабаліся яму ўмовы, запрапанаваныя герцагам. Можа, не спадабалася яму работа, якую меў выконваць па загаду Альбрэхта, можа, надакучылі яму трывожныя лісты жонкі Маргарыты, якая дамагалася прыезду мужа ў Вільню. Лісты былі звязаны з перыпетыямі, вынікшымі з судовай валакіты. Скарына паддаўся лямантам Маргарыты і прыехаў.

Вільня сустрэла Скарыну непрыязна. Не было ніякіх магчымасцей развіваць любімую выдавецкую справу. Не было магчымасці вярнуцца на службу ў канцылярыю віленскага епіскапа, у якога служыў Скарына да арышту. Сям'ю Скарыны акружала атмасфера інтрыг і плётак, звязаных з доўгатрывалымі судовымі перыпетыямі. У такой сітуацыі Скарына, шукаючы сродкаў утрымання для сям'і, пастанавіў пакінуць Вільню і Вялікае княства Літоўскае. Прыблізна ў палавіне трыццатых гадоў XVI ст. ён пакінуў Беларусь і накіраваўся зноў у чэшскую Прагу.

Новы чэшскі перыяд у жыцці Скарыны слаба высветлены. Праўда, захавалася некалькі дакументаў, у якіх выступае прозвішча Скарыны, але не знаходзім у іх шырэйшага асвятлення дзейнасці нашага вучонага. Чым займаўся Скарына ў Празе? Працаваў у батанічным каралеўскім садзе. Быць можа, быў загадчыкам батанічнага сада, быць можа, узначальваў навуковую раду, быць можа, быў садоўнікам.

З Прагі Скарына ў Беларусь больш не вярнуўся. Памёр на чужыне.

Пакінуў па сабе кнігі, дакументы, акты, матэрыялы, але не дайшлі яны да нашых дзён. Калі б дайшлі, ведалі б мы на многа большую колькасць фактаў, звязаных не толькі з пражскім перыядам, але і з усім жыццём Скарыны. Аб факце існавання бібліятэкі і архіва Скарыны даведваемся з акту, выдадзенага чэшскім каралём Фердынандам у 1552 годзе. У акце гаворыцца, што ўсе дакументы, пакінутыя Скарынай, належаць па наследству яго сыну Сімяону Русу.

У каралеўскім акце гаворыцца аб Скарыне як аб чалавеку памёршым. З гэтага вынікае, што ў 1552 годзе Скарыны не было ў жывых. На жаль, аднак не ведаем дакладнай даты смерці Скарыны, таксама зрэшты, як і не ведаем года яго нараджэння.

 

54

Я не думаў пра тое. Я перажываў няшчасце, якое звалілася на роту, усё ва мне кіпела ад узрушання, а ён во якую захоўвае цвярозасць погляду. І самае недарэчнае заключалася ў тым, што ўвогуле ён казаў праўду. Адкрыццё гэтае, вядома, не прынесла мне суцяшэння, і, каб задушыць у сабе нечаканую прыкрасць, я падаўся ад яго далей.

Прыгнуўшыся за голымі, месцамі густаватымі кусцікамі, я пабег уздоўж ланцуга, і неўзабаве, замест Піліпенкі, у нейкай ямцы-раўку наткнуўся на лейтэнанта Грыневіча. Нампаліт быў паранены і, адхінуўшыся на локаць, з пакутніцкім выглядам ляжаў на баку. Штаны яго былі ссунуты да калень. Незнаёмы баец у целагрэйцы, схіліўшыся над лейтэнантам, таропка і няўмела бінтаваў ягонае сцягно. Рукі байца кепска слухаліся, дрыжалі, бінт скручваўся, і Грыневіч раздражнёна прыкрыкваў:

— Ды тужэй ты!.. Закручвай! Не бойся!

— Зараз, зараз...

Я ўбег у равок і прысеў побач.

— Што — здорава?

Баец не адказаў, лейтэнант коратка з-пад каскі зірнуў на мяне і паморшчыўся. З твару, аднак, ён выглядаў не так кепска, як мне здалося ў пачатку, толькі, як і ўсе, быў брудны і стомлена дыхаў. Я падумаў, што рана ў яго, мабыць, не цяжкая. Сапраўды, замест адказу ён даволі бадзёра спытаў:

— Дзе камандзір роты?

— Там. Ля мастка.

— Сволачы! — зноў паморшчыўся нампаліт. — Што нарабілі! Дражнілі з аднаго боку, а ўдарылі з другога...

— Камандзір роты загадаў: усім у ланцуг, — сказаў я.

Грыневіч прыўзняўся на локці.

— Бяжы, перадай Піліпенку, каб ні кроку назад! А то на схіле ўсіх пакладзе.

Я падхапіўся было бегчы далей, але тут жа згледзеў старшыну — голасна лаючыся, той гнаў у ланцуг трох байцоў, якіх вярнуў, мабыць, з самага пагорка.

— Гэць! Гэць вашу маць! Я вам покажу тікаты!

Нашы ў ланцугу не стралялі, спакваля спынілі агонь і немцы — напэўна, біць не было па кім ці ўжо стала далекавата нават для кулямётаў. Піліпенка прабег яшчэ крыху, пакуль не захінуўся ад немцаў кустоўем, а затым па-над узмежкам павярнуў у наш бок.

Я апусціўся на мокрую палу шыняля.

Аднак не паспеў яшчэ старшына дабегчы да нашага раўка-ямкі, як з другога боку таксама запляцкалі ў гразі боты. Усе азірнуліся — рашучай нядобрай хадой сюды кіраваў камандзір роты. Ён па-ранейшаму быў без шапкі, толькі захінуў на пару кручкоў расхрыстаныя полы шыняля, паверх якога целяпалася знаёмая планшэтка Ваніна. Убачыўшы яе, я зразумеў, што Ваніна няма. Старшы лейтэнант неяк раптоўна спыніўся перад раўчуком, нібы нечакана для сябе наткнуўся на нас.

— Ну! — сказаў ён такім тонам, што ва ўсіх нас па-

56

ся да апануранага Піліпенкі. — Я ж загадаў табе спыніць узвод! Якога ж ты д'ябла сам кінуўся за ўсімі?

— Так біглы ж...

— Ці бачылі яго: біглы! І ты пабег! Ну, тады і бегай! Радавым бегай. Я здымаю цябе з узвода. Паняў?

— Знімайтэ! — пакорна сказаў старшына, пацiснуўшы плячыма. Затым неяк ураз паспакайнела абвяў, здзеў шапку і падкладкай яе выцер спатнелы твар. — Така міні біда! Цьфу!

— Табе статкам авечак камандаваць, а не ўзводам. Балбес!

— Та хто е.

Кулямётчык з вышыні, мабыць, нешта заўважыў на гэтым баку і праз кустоўе пусціў доўгую, рассыпістую чаргу. Дзве кулі шчоўкнулі на ўзмежку, пырснуўшы ў неба чорнай зямлёй. Ананьеў, аднак, не варухнуўся і па-ранейшаму нязручна стаяў над раўком.

— Грыневіч, камандуйце ўзводам! Усім закапацца і назіраць за праціўнікам!

— Лейтэнант паранены, — сказаў я.

— Што?

— Нічога страшнага, — махнуў рукою Грыневіч. З залішняй паспешлівасцю ён ускочыў на параненую нагу, але тут жа паморшчыўся і зноў апусціўся на дол. Ананьеў бачыў усё гэта, але не сказаў нічога — крута павярнуўся і імклівай хадой пашыбаваў да дарогі.

Я вылез з раўка і пабег следам.

* ✲ *

Заняўшы свае акопы, немцы зусім сціхлі на вышыні, нібы ўсё астатняе іх не цікавіла. Па нас яны чамусь не стралялі. Ананьеў спярша пабег, нават прыгнуўся на адкрытым, але стрэлаў не было, і тады ён проста пайшоў хуткім крокам. Я дагнаў ротнага, і, штораз пазіраючы на вышыню, сігаў крыху ззаду. Нас было лёгка падстрэліць тут, але Ананьеў не бег, а бегчы мне аднаму было проста сорамна перад камандзірам роты. Так мы ішлі па амаль адкрытым полі. Стрэлаў не было.

Мяне, прызнацца, гэта трохі дзівіла, падумалася: ці не рыхтуюць яны нам двум што-небудзь і яшчэ горшае?

Але, здаецца, для таго было пазнавата: мы перайшлі ўжо адкрытую балацявіну, набліжаліся да насыпу ля мастка. І тады на тым месцы, дзе нядаўна мы сядзелі з палонным, я ўбачыў Шапу. Відаць было, аўтаматчык чакаў камандзіра роты, ля яго ног ляжаў аўтамат і напакаваны чымсь рэчмяшок.

Ананьеў таксама ўбачыў яго, але ніяк не выказаў свае зацікаўленасці — зрэдку пазіраючы на вышыню, дайшоў да насыпу, пераскочыў лужыну ў канаве і па адхоне далез да броўкі дарогі.

Шапа павярнуўся да камандзіра роты.

— Ваш загад выканан, таварыш старшы лейтэнант.

Ананьеў, аднак, моўчкі лёг на адхон і, высунуўшы галаў, упершыню засяроджана агледзеў схілы вышыні.

— Там другі батальён разварочваецца, — паказаў у бок Шапа. — Па ўзгорку за дарогай.

*ПА БЕЛАРУСКІХ КУРОРТАХ*

# ◆ „КРЫНІЦА" ◆



*У маляўнічым кутку паблізу Мінскага мора пабудаваны нядаўна санаторый «Крыніца» для лячэння жалудачна-кішэчных хвароб.*



*Заняткі лячэбнай фізкультурай.*

## Ці ведаеце, што...

...у вадзе акіянаў і мораў знаходзяцца розныя хімічныя элементы. Аказваецца, што ў марской вадзе ёсць каля шасці мільёнаў тон золата. Калі б удалося яго дастаць, дык на долю кожнага жыхара нашай зямной планеты прыпадала б каля 2 кілаграмаў золата.

...амерыканскі ўрад для таго, каб утрымаць сваю ваенную магутнасць, выдае толькі на працягу аднаго года 80 мільярдаў долараў, што прымушае ўзбройвацца таксама іншыя краіны. Вынік такі, што сродкамі знішчэння, якія дагэтуль назапасіліся, можна забіць кожнага жыхара зямнога шара шэсць разоў. За грошы, выдаткаваныя на ўзбраенне ў апошні перыяд, можна было б ліквідаваць у хуткім часе праблему голаду і недахопу памяшканняў на ўсім зямным шары. (яц)

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

НЕКАЛЬКІ ЛЕТНІХ ПАТРАЎ

### ФАРШЫРАВАНАЯ КАЛЯРЭПКА (КАЛЬРАБІ)

Калярэпкі (найлепш маладзенькія, маюць яны больш далікатны смак) абабраць, спаласнуць, зрэзаць вяршкі і выразаць сярэдзіну. Калі калярэпкі старэйшыя і больш цвёрдыя, то трэба іх хвіліну абварыць у кіпятку.

Падрыхтаваць фарш: могуць быць гэта рэшткі смажанага мяса, тады трэба яго прапусціць праз мясарубку або вельмі дробна пасячы. Калі мяса купляем спецыяльна для гэтай патравы, дык можна купіць гатовае змеленае. А таксама можна ўзяць для гэтай мэты нават цяляціну ці кураціну. На патэльні падсмажыць цыбульку, крыху прысмажыць змеленае мяса, пасаліць яго і пасыпаць перцам. Убіць у мяса яйцо, вымяшаць.

Фарш накладаць у калярэпкі, прыкрываць іх зрэзанымі вярхушкамі і тушыць у каструльцы з лыжкай масла, даліваючы вады, пакуль калярэпка не стане мяккая. Браць па 3—4 калярэпкі на асобу.

Можна зрабіць смачны соус з таго соусу, які застаўся пасля тушэння. Развесці яго засмажкай (мука, разагрэтая з тлушчам на патэльні), заправіць соллю, воцатам, цукрам. Калярэпку можна паліць гэтым соусам, пасыпаць зялёнай пятрушкай, ды падаваць з бульбай.

### МОРКВА З БРУЧКАЙ І СВІНІНАЙ

Паўкілаграма морквы і столькі ж бручкі памыць, ababраць, дробна нарэзаць, палажыць у каструлю, дадаць паўкілаграма свіных робрышак, заліць халоднай вадой і варыць на даволі вялікім агні, пакуль гародніна не будзе мяккая. Калі трэба, даліваць крыху гарачай вады. З мукі і тлушчу зрабіць засмажку, дадаць яе да тушанага, размяшаць. Закіпяціць і заправіць па смаку соллю, цукрам і перцам. Пасыпаць зелянінай.

### ГАРОДНІНА З ТАМАТАМ

1/4 кг морквы, 1 селер, 1 цыбулю, 1 пятрушку памыць, ачысціць і нарэзаць палосачкамі, заліць малой колькасцю гарачай вады і зварыць. Калі ўжо будуць мяккія, дадаць 2 лыжкі таматнай пасты, 1 лыжку тлушчу, закіпяціць. Заправіць па смаку соллю, цукрам, перцам. Вельмі добры салат да мяса.

### ПОРЫ Ў ЗАСМАЖЦЫ

Поры ачысціць, адрэзаць цвёрдыя зялёныя лісткі і карэнні. Вельмі дакладна абпаласкаць. Нарэзаць упоперак на скрылёчкі, заліць гарачай вадой, дадаць крыху тлушчу і закіпяціць. Калі поры будуць мяккія, зрабіць засмажку, развесці яе выварам з гародніны. Закіпяціць, памешваючы, і ўліць у поры. Заправіць па смаку соллю і перцам (калі хто любіць, можа дадаць крыху воцату). Можна поры падаваць да мяса або і бульбы.

# ПРАЎДА АБ ВЫРАТАВАННІ ЭКСПЕДЫЦЫІ НОБІЛЕ

*Не так даўно ў нашай тэлевізіі ішоў серыйны фільм вытворчасці ФРГ аб выратаванні экспедыцыі Нобіле. Думаем, што чытачы з цікавасцю прачытаюць новыя матэрыялы аб выратаванні гэтай экспедыцыі, якія у апошні час з'явіліся ў савецкім друку.*

Пераадольваючы моцны норд-ост, дырыжабль «Італія» вяртаўся з Паўночнага полюса. Ад рову матораў трэслася дзюралевая гандола. Схіліўся над метэакартамі шведскі вучоны Мальмгрэн. Ля электраскопа чараваў чэшскі вучоны Бегоунек. Другія суткі змагаўся са сном камандзір дырыжабля генерал Умберта Нобіле.

А ў Осла, у маленькім кафэ, сядзеў сівы стомлены чалавек у калматым світэры. Журналістам, якія абступілі яго, ён даваў горкае і не зусім справядлівае інтэрв'ю:

— Навуковае значэнне экспедыцыі раўняецца нулю. На борце, акрамя Мальмгрэна, — ніводнага вопытнага палярніка... Дасягнулі полюса? Галоўнае — не дасягнуць, галоўнае — вярнуцца...

Гэта быў Руал Амундсен, нацыянальны герой Нарвегіі. Чалавек, які перцым ступіў на Паўднёвы полюс. Чалавек, перад якім два гады назад раскрыў ледзяныя абдымкі полюс Паўночны. Вось гэтак жа захлёбваліся газеты, вось гэтак жа рассоўваў грудзьмі сустрэчны норд-ост яго дырыжабль «Нарвегія». Яго дырыжабль? Але на борце, акрамя Амундсена, знаходзіўся канструктар дырыжабля, сённяшні герой Умберта Нобіле. Дык хто ж герой гэтага пералёту праз Паўночны полюс у Канаду? Італія прагнула прыярытэту. Артыкулы, інтэрв'ю, заявы... І сярод гэтага віскату, у сутычцы нацыянальных амбіцый апынуліся двое: Амундсен і Нобіле. На вялікай планеце Зямля сталі ворагамі два мужныя, высакародныя чалавекі — нарвежац і італьянец.

11 гадзін 44 мінуты 25 мая 1928 года. «Пацвердзіце радыёпеленг, ёсць сумненне, пацвердзіце радыёпеленг».

Гэта апошняя радыёграма з борта «Італіі». Яшчэ на другі дзень па інерцыі крычалі газеты, а затым настала цішыня. У газетах за 27 мая можна прачытаць толькі вельмі кароткія паведамленні: «Сувязь з „Італіяй" страчана. Дырыжабль на базу не вярнуўся».

Пасля двухдзённага маўчання зноў закрычалі газетныя загалоўкі: «Дырыжабль „Італія" паглынула ледзяная пустыня». «16 чалавек генерала Нобіле не даюць аб сабе знаць», «Швецыя пачынае пошукі», «Нарвежскі лётчык Лютцау-Хольм вядзе свой апарат на дапамогу Нобіле». І зусім маленькае паведамленне, набранае дробным шрыфтам: «Расія прапануе Італіі дапамогу».

Давайце паглядзім газеты вачыма чытача тых дзён. Ці не стане нам тады больш зразумелай максімальная лаканічнасць гэтай маленькай заметкі, уся важнасць якой аказалася

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## СЯЛЯНЕ БУДУЮЦЦА

Сяляне, як ніколі, будуюцца, мураваныя дамы, будынкі сельскага ўжытку вырастаюць хутка. У вёсцы Сухавольцы (Гайнаўскі павет) больш палавіны вёскі — гэта мураванкі. Таксама ў вёсках Грабавец, Дубічы Царкоўныя, Істок... Сяляне будуюцца і на сваіх панадворках. Часта «выстаўляюць» шэраг мураваных будынкаў. Нават калі маюць яшчэ добрыя драўляныя дамы, будуюць вялікія, прасторныя, мураваныя. Гэта сведчыць аб усё лепшым жыцці сялян.

В. Б.

### КАНІКУЛЫ



*Вучаніцы ляўкоўскай школы робяць піраміду.*

*Фота: Я. Цялушэцкі*

## ДОБРАЯ ІНІЦЫЯТЫВА

Дарога, якая пачынаецца каля школы ў Дубічах Царкоўных і ідзе ў напрамку вёскі Грабавец, ніколі не была ў рамонце. Зараз за вёскай перасякае яе рэчка Арлянка. Нядаўна стаяў тут драўляны мосцік, на якім можна было нават праваліцца ў халодную ваду, такі быў стары. Але вось па ініцыятыве прэзідыума ГРН у Дубічах Царкоўных стары мост разабралі і пачалі будаваць новы. Таксама плануецца рамонт гэтай дарогі. Работамі кіруюць Іван Майстровіч і Косця Чыквін.

М. Панфілюк

## МЫШЫ Ў КЛУБЕ

У клубе-кавярні ў Плёсках у апошні час паявілася многа мышэй. Мышы робяць тут вялікія шкоды, дабіраючыся да прадуктаў. Нядаўна нарабілі яны шкод на 70 злотых. Многа пачак цястак трэба было закапаць у зямлю. На гэтым не скончылася, мышы далей робяць сваё. Варта прыпомніць, што мышы могуць быць разносчыкамі рознай заразы. Трэба рабіць усё, каб ліквідаваць наступленне мышэй.

Л. Л., Плёскі

## КУПЛЯЮЦЬ ТЭЛЕВІЗАРЫ

Сяляне масава пачалі купляць тэлевізары. У грамадзе Дубічы Царкоўныя іх ужо ёсць нямала: у Дубічах Царкоўных — каля 20 штук, у Тафілаўцах — 11 штук. Таксама ў іншых вёсках ёсць тэлевізары.

В. Б.




### ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Год таму назад я пазнаёмілася на забаве з хлопцам з іншай вёскі. Ён мне спадабаўся, і мы гулялі цэлы вечар. Але на другі дзень Янка паехаў, і доўга мы не бачыліся. Потым ізноў сустрэліся. Янка мне штораз больш падабаўся. Пэўна, было б усё добра, каб не тое, што здарылася ў перадапошнюю суботу.

Мяне не было дома, я паехала ў горад да сваякоў. Калі вярнулася, бацькі расказалі мне, якая адбылася ў нас «камедыя», «рэжысіраваная» Янкам. Янка дзесьці добра выпіў (я не ведала дагэтуль, што Янка многа п'е). Прыйшоў да нас позна вечарам і пачаў дабівацца ў дзверы. Бацька мой устаў і сказаў, што мяне няма і няхай сабе ідзе адгэтуль. Бацькі мае не бачылі Янкі, ведалі яго толькі з майго расказу. А ён замест сапраўды пайсці, дык пачаў авантуравацца, усяляк абзываць бацькоў і мяне. Так крычаў, што нават суседзі выйшлі. Потым пайшоў.

Нядаўна я атрымала пісьмо ад Янкі, які просіць мяне сустрэцца, але нічога не ўспамінае аб гэтым факце. Калі мая мама ўбачыла, што гэта пісьмо ад Янкі, пачала на мяне крычаць, што не для мяне хлапец (бо нам трэба хлопца на гаспадарку, бо я адна толькі дома і старыя бацькі). што такога не хочуць яны аглядаць больш на вочы. І я, Сэрцайка, здаю сабе справу з гэтага, але мне Янка падабаецца. Мо нават яго кахаю? Што рабіць: пайсці на сустрэчу ці пакінуць і думку пра Янку?

*Таня*

*з Сакольшчыны*

Таня! Безумоўна — пакінуць і думку пра Янку. І лепш цяпер, калі яшчэ не ведаеш, ці кахаеш Янку ў сапраўднасці, ці не. Твой ліст не вымагае каментарыяў, кожнаму зразумела, што гэта не «матэрыял» на мужа.

*Сэрцайка*

## ЖЫЛЛЁВЫ КААПЕРАТЫЎ



У гайнаўскім жыллёвым кааператыве на дзень 31.XII.1970 г. налічвалася 454 члены і 208 кандыдатаў. Гадавы прырост членаў 80—90 асоб. Пры такім інтэнсіўным павелічэнні кандыдатаў прадбачваецца, што ў бягучай пяцігодцы лік членаў кааператыва наблізіцца да 900. Гэтыя лічбы гавораць, што пастаянна растуць патрэбы гайнаўскага грамадства. Прычыняецца да гэтага інтэнсіўнае развіццё прамысловасці ў горадзе. План на 1971—1975 гады прадбачвае пабудову 240 кватэр. Беручы пад ўвагу будаўляныя залегласці ў папярэдняй пяцігодцы, лік гэты з'яўляецца малым. Павінен быць ён павялічаны прынамсі да 300 кватэр.

На здымках: кааператыўнае будаўніцтва ў Гайнаўцы.

*Тэкст і фота: В. Бура*



## §Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Ці захоўвае спадчыну ў сельскай гаспадарцы той, хто працуе на гаспадарцы, а адначасова на нейкім прадпрыемстве?

АДКАЗ:

Права да спадчыны ў сельскай гаспадарцы захоўваюць тыя наследнікі, якія непасрэдна перад смерцю ўласніка гаспадаркі працавалі на ёй бесперапынна прынамсі адзін год. Праца на гаспадарцы лічыцца непарыўнай, калі наследнік пражывае на гаспадарцы і выконвае пастаянна неабходныя работы, а не працуе нідзе на аснове ўмовы працы або прызначэння.

З гэтага вынікае, што калі хто хоць і пражывае на гаспадарцы і на ёй працуе, аднак працуе яшчэ на падставе ўмовы працы на прадпрыемстве — не захоўвае спадчынных правоў да сельскай гаспадаркі.

Аднак, калі б гаспадарка мела не больш, чымсь 0,5 га, то той, хто працуе на гэткай гаспадарцы, нават калі б на ёй не пражываў і калі б працаваў на моцы ўмовы працы — захоўвае спадчынныя правы да гаспадаркі. Нават калі б хто пражываў на гэткай гаспадарцы, але на ёй не працаваў, а працаваў на моцы ўмовы працы, не можа атрымаць у спадчыне гаспадарку.

зразумелай толькі праз паўтара месяца? Разгорнем хаця б англійскую «Нью-лідэр».

«Пан Амундсен у сваім артыкуле пра палярных піянераў спасылаецца на Расію. Але наўрад ці Расія, якая перажывае эканамічныя цяжкасці, зможа цяпер канкурыраваць з Нарвегіяй у пранікненні на Поўнач».

Не менш катэгарычнае італьянскае «Ла Стампа»:

«Расія выбыла з арктычнай гульні. Ад былой славы ў рускіх засталіся нядрэнны ледакол, названы імі па імю свайго камісара, і гаротная ўдава вядомага палярнага даследчыка Жоржа Сядова».

Усе станцыі свету слухалі эфір. На спірытычных сеансах у Лондане выклікалі дух Нобіле. Давалі інтэрв'ю хіраманты. На радыёстанцыі Эйфелевай вежы ўстаноўлена кругласутачнае дзяжурства. У высокія шыроты накіраваны судны з магутнымі прыёмнікамі. У касцёлах служылі малебны. Жонкі тых, хто прапаў без вестак, апранулі чорнае. Але свет ужо стаміўся слухаць і чакаць. Бо цэлы тыдзень нічога невядома.

Тое, што здарылася 3 чэрвеня, газеты пракаменціравалі як выпадковасць, як шанцаванне, як цуд. Не магу не прывесці загаловак з «Нью-лідэр»: «Нобіле размаўляе з камсамольцам». У Архангельскай вобласці, у лясной глухамані, у вёсцы Васкрасенне-Вохма хлапчук радыёаматар Коля Шміт прыняў радыёграму ад экіпажа дырыжабля «Італія». У гэты дзень ён прыйшоў са школы, хутка паабедаў і сеў за свой самаробны прыёмнік. Хлапчук хваляваўся за лёс «Італіі», спяшаўся даведацца навіны. І раптам: «SOS», «Італія», «SOS». А далей незразумела, далей па-італьянску. Хлапчук схапіў шматок паперы. Вельмі моцныя перашкоды. Ён спрабаваў рускімі літарамі напісаць незразумелыя фразы. Вось што атрымалася: «Італія — Нобіле-Франца-Іосіфа — SOS, тэра тэнга» (слухай зямлю). Пазней чэшскі вучоны Бегоунек, які быў сярод пацярпеўшых катастрофу, расказаў:

«У той дзень з ільдзіны мы ўбачылі на гарызонце востраў Фойн, таму дадалі да радыёграмы яго назву. Першыя сігналы рускі радыёаматар прыняў правільна, словы ж «Фойн» і «цырка» (што ў радыёграме азначала «ля вострава Фойн) зліліся для яго ў нешта падобнае на Франца-Іосіфа».

Людзі жывыя! Ледзь дачакаўшыся раніцы, Коля Шміт кінуўся на тэлеграф. Праз гадзіну яго «маланка» была ў Маскве, у таварыстве сяброў радыё. Таварыства адразу ж перадало паведамленне ў толькі што створаны пры Асавіяхіме Камітэт дапамогі дырыжаблю «Італія». Адтуль яно цераз Саўнарком паступіла ў італьянскае консульства. У Італію «маланка» Колі Шміта прыйшла вечарам 4 чэрвеня.

*(Працяг у наступным нумары)*

## ПРЫКЛАДНЫ ГАСПАДАР

Аўтарытэт у асяроддзі можна дабыць прыкладнымі паводзінамі, добрай працай, ветлівасцю, непасрэднасцю, справядлівасцю. Усе гэтыя якасці мае Павел Шуй з вёскі Плёскі. Варта яго залічыць да першых і перадавых гаспадароў вёскі. У яго заўсёды адпаведна ўгноеная зямля, для якой ён не шкадуе мінеральных угнаенняў. Кантрактуе ён многа жыта.

Гэта чалавек, які жыве па-новаму. Ён сябруе з сельскагаспадарчымі кніжкамі і часопісамі. З'яўляецца ён актыўным членам партыйнай арганізацыі ў вёсцы. Хопіць быць на вясковым сходзе і паслухаць, як Шуй гаворыць, то ўжо вядома, што гэта справядлівы чалавек, які дбае пра добрае заўтра. З'яўляецца ён таксама адным з лепшых членаў сельскагаспадарчага гуртка.

За сваю гаспадарнасць карыстаецца пашанай у сваёй вёсцы, ва ўладах грамады і павета.

*Янка*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Wahadło" (USA), 20—21. „Panowie z kompleksami" (włoski), 22—23. „Lucia" (kubański), 24—25.

**Нараўка**

„Twarz anioła" (polski), „Drugi tor" (NRD), 21—25.

**Нарва**

„Labirynt miłości" (radz.), „I znów z tobą" (węgierski), 21—25.

**Чыжы**

„Jarzębina czerwona" (polski), „Los człowieka" (radz.), 21—25.

**Дубічы Царкоўныя**

„Popierajcie swego szeryfa" (USA), „Życie, miłość i śmierć" (franc.), 21—25.

**Арэшкава**

„Białe słońce pustyni" (radz.), „Foto Haber" (węgierski), 24—25.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Dziura w ziemi" (polski), „Nie wspominać o przyczynie śmierci" (jugosł.), 21—25.

**Орля**

„Album" (polski), „Drugi tor" (NRD), 21—25.

**Райск**

„Nieśmiertelni Flip i Flap" (USA), „Wielka miłość" (franc.), 21—25.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Poste - restante" (rumuński), 20—21. „Krwawa bajka" (jugosł.), 22—23. „Świeć moja gwiazdo" (radz.), 24—25.

**Янаў**

„Wahadło" (USA), 21—25.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Dziewczyna kłamie" (jugosł.), 20—21. „Miraż" (USA), 22—23. „Effi Briest" (NRD), 24—25.

**Мельнік**

„Przystanek komisariat" (węgierski), 20—21. „Testament Agi" (węgierski), 22—23. „Hrabina Cosel" (polski), 24—25.

**Мілейчыцы**

„Biała pani" (czeski), 20—21. „Dziki swobodny" (angl.), 22—23. „Południk zero" (polski), 24—25.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Kto wierzy w bociany" (polski), „Sklep z modelkami" (USA), 21—25.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wrzystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia za zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 5.673 E-3

